*Экспрэс*

# НАВІНЫ

*"Адраджэньне"*

# 8 ВЕРАСЬНЯ — ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ

### РАШЭНЬНЕ СОЙМУ БНФ ПРА ВАЙСКОВУЮ ПРЫСЯГУ

Над беларускімі вайскоўцамі цяжэе прысяга неіснуючай дзяржаве СССР. Прыняцьце афіцэрамі прысягі на вернасьць народу Беларусі ўсяляк тармозіцца антынезалежніцкімі сіламі. Сойм заклікае патрыятычных вайскоўцаў, у тым ліку вайскоўцаў запасу, прысягнуць на вернасьць Беларусі 8 верасьня 1992 г., у Дзень беларускай вайсковай славы — Аршанскай перамогі 1514 г.

8 жніўня 1992 г.

**Управа БНФ "Адраджэньне" заклікае вайскоўцаў дзейнае службы, вайскоўцаў у адстаўцы і ў запасе ўзяць удзел ва ўрачыстасьці прыняцьця прысягі на вернасьць Беларусі, якое адбудзецца 8 верасьня 1514 г., у дзень беларускай вайсковай славы, а 18.30 на пл. Незалежнасьці ў Менску.**

Маладзежная арганізацыя "ВЫБРАНЕЦКІЯ ШЫХТЫ" запрашае на фэст, прысьвечаны ўгодкам перамогі беларускага войска над захопніцкай арміяй Масквы ў 1514 г. Фэст адбудзецца на мейсцы бітвы ля р. Крапіўны. 5 верасьня зь 9.00 да 14.00 на аршанскім вакзале чакаюць аўтобусы, якія будуць завозіць удзельнікаў на мейсца сьвята. У праграме — адкрыцьце памятнага знаку, канцэрт бардаўскай песьні.

# Выступ Зянона ПАЗЬНЯКА па тэлебачаньні 24 жніўня 1992 г..

25 жніўня спаўняецца гадавіна з таго часу, як была канстітуцыйна замацаваная нашая незалежнасьць. Звычайна ў дні ўгодкаў падводзяцца вынікі таго пэрыяду, які грамадзтва пражыло. І вось цяпер мы можам таксама падвесьці некаторыя вынікі. 25.08.91 на сэсіі ВС Дэкларацыі аб незалежнасьцці Беларусі было нададзена значэньне канстытуцыйнага закону. Перад Беларусьсю адкрыліся выдатныя магчымасьці. Па-першае, рэалізавацца як незалежная дзяржава ў Эўропе. Для таго, каб гэтая мэта была рэалізаваная, трэба было ў першую чаргу правесьці эканамічныя рэформы, другое — правесьці рэформу сістэмы ўлады, бо тая сістэма, што была раней і захоўваецца зараз — нядзеяздольная: Саветы


Фота У. КАРМІЛКІНА

былі прыкрыцьцём камуністычнае дыктатуры, а не самастойныя органы ўлады, і зараз яны ня здатныя плённа дзейнічаць.

Трэйцяе, што павінна было быць зроблена і для чаго былі ўсе магчымасьці — гэта адраджэньне нацыянальнае культуры і нацыянальнае сьвядомасьці. Ёсьць некалькі асноваў, дзякуючы якім існуе грамадзтва — гэта чалавек, сям'я, нацыя,нацыянальная дзяржава. І ёсьць пэўныя заканамернасьці якія забясьпечваюць іх існаваньне.

Для таго, каб чалавек выявіўся як асоба, патрэбня свабода, інакай ён як асоба не выяўляецца. Для плённага існаваньня сям'і павінна быць каханьне, калі ж гэтага няма — сям'я доўга існаваць ня будзе. Для існаваньня нацыянальнае дзяржавы патрэбная нацыянальнае сьвядомасьць. Калі сьвядомасьць на вельмі нізкім ў

зроўні, то ніякія эканамічныя рэформы, ніякае іншае разьвіцьцё, ніякае ўмацаваньне дзяржавы плёну не дадуць.

Чацвертая пазіцыя — гэта задача умацаваньня структураў дзяржаўнае незалежнасьці. Давайце пагледзім, як за год былі гэтыя пазіцыі выкананыя (а на працягу году можна было шмат чаго зрабіць). У якім стане нашая эканоміка? Ці адбыліся тыя рэформы, якія павінны былі адбыцца і якія рэалізавалі б новыя ўмовы з карысьцю для насельніцтва? Мы бачым, што цяпер нават стала яшчэ горш, бо кіраўніцтва Рэспублікі фактычна ня мае свае канцэпцыі дзяржаўнае палітыкі, а адсутнасьць канцэпцыі прывяла да таго, што яно "прывязалася" да палітычных і эканамічных працэсаў суседняе Расеі. А там сітуацыя нашмат горш. У выніку мы вымушаныя перажываць балячкі чужое лібэралізацыі.

Такім чынам, прыватызацыя не адбываецца, пераход да рынкавае эканомікі не адбываецца, пытаньне зь зямлёй ня вырашана, пытаньне сацыяльнага забесьпячэньня ў такім самым бядотным стане, тое і з пытаньнем замежных інвэстыцыяў і г. д. Мы можам задаць сабе пытаньне: "У чымжа справа, як так адбылося? Чаму дзяржава стала незалежнай, атрымала магчымасьць праводзіць палітыку ў інтарэсах свайго народу, але на працягу году практычна нічога ня зроблена?

Адказ на гэтае пытаньне хаваецца ў палітычнай сфэры. Найперш павінны быць палітычныя зьмены, яны і дадуць магчымасьць правесьці зьмены эканамічныя. Што адбылося на Беларусі год назад? На Беларусі не адбылося ніякіх зьменаў улады, што адбыліся нават у Расеі. Практычна было толькі спынена існаваньне структураў КПСС. Усе-ж намэнклятурныя структуры, створаныя камуністамі, да гэтага часу засталіся ў некранутым выглядзе: уся сістэма эканамічнае ўлады, заканадаўчая ўлада, судовая, пракуратура — усё засталося на тым самым мейсцы, з той самай палітыкай, з тымі самымі людзьмі. У выніку рэформы, якіх мы чакалі, не пайшлі, бо рэформы не ў інтарэсах уладнае намэнклятуры. Апазіцыя БНФ цудоўна гэта зразумела пасьля двухгадовае дзейнасьці у ВС, калі стала ясна, што інтарэсы народу ў корані разыходзяцца зь інтарэсамі намэнклятуры. Прыклад вы бачыце: ідзе прыватызацыя, але прыватызацыя намэнклятурная, ідзе, фактычна, разрабаваньне дзяржавы, ідзе распраданьне дзяржаўнае маёмасьці, прытым адбываецца яно на квазізаконнай падставе. Як прыклад магу прывесьці суд над дэпутатам Новікавым.

Дэпутат выявіў, што прыватызацыя Дзяржстраху ў аснове сваёй носіць антыдзяржаўны характар, што ў выніку будуць абрабаваныя людзі, якія ўклалі свае сродкі ў страхаваньне маёмасьці. Дэпутат выступіў па радыё, пасьля чаго апынуўся пад судом за зьняважу кіраўніка ведамства, што ажыцьцявіла гэтую прыватызацыю. І суд прызнаў, што дэпутат меў права ацэньваць законы як антыдзяржаўныя, што гэтыя інструкцыі насілі антыдзяржаўны характар, але адначасна пакараў дэпутата Новікава штрафам. Гэта ўнікальны выпадак, калі і абвінавачаны, іісьцец, і суд "мелі рацыю". А сутнасьць праблемы ў тым, што інструкцыі, якія скарыстаў кіраўнік ведамства, заснаваныя на пастанове СМ. Пастанова ж СМ, якая таксама носіць антыдзяржаўны характар, грунтуецца на законах аб уласнасьці, аб прадпрыемстве. Атрымалася, што ўрад і дзяржаўнае прадпрыемства дзейнічаюць не ў інтарэсах дзяржавы, але на падставе антыдзяржаўных законаў, што і прызнае суд. Дзе вы яшчэ бачылі нешта падобнае? У такой сітуацыі, калі інтарэсы людзей, якія трымаюць уладу і выдаюць такія законы, і абыходзяць гэтыя законы, супярэчаць народным інтарэсам, выйсьце толькі адно — зьмена гэтае ўлады. Таму Апазіцыя БНФ і выйшла з прапановай аб рэфэрэндуме.

Безумоўна, рэфэрэндум адбудзецца, само жыцьцё прымусіць правесьці гэты рэфэрэндум, і ў сувязі з гэтым я хацеў-бы нагадаць некалькі момантаў. Памятаеце, як праціўнікі рэфэрэндуму выступілі супраць яго правядзеньня, прыводзячы такі аргумэнт, што нельга распускаць ВС — можа аказацца безуладзьдзе і г. д. Апазіцыя нават не адказвала на гэтыя заўвагі, бо яны разьлічаныя на цёмных людзей, на тых, хто ня ведае Канстытуцыі і элемэнтарных законаў. ВС, паводле Канстытуцыі, ня будзе распушчаны, пакуля ня будзе абраны новы ВС. Аргумэнт пра безуладзьдзе вы можаце пачуць і зараз, але скажыце, калі ласка, дзе наш ВС? З красавіка месяца ён распусьціўся, яго няма на палітычнай арэне.

У гэты час адбываецца падвышэньне цэнаў, заключаюцца антынацыянальныя пагадненьні з Масквою, усе далей у тупік заходзіць нашая эканоміка — ей не хапае элемэнтарных законаў, каб разьвівацца. А ВС не існуе. І грамадзтва гэтага не заўважае. Праўда, Вы маеце магчымасьць амаль кожны тыдзень чытаць інтэрвію нашага старшыні ВС, але-ж старшыня ВС ня кіназорка. Трэба валодаць сітуацыяй, а калі Старшыня кажа, што ня можа сабраць ВС, бо баіцца, што дэпутаты не прыедуць на сэсію, дык пра што тады гаварыць?

У выніку наш ВС не ратыфікаваў Пагадненьне аб звычайных узбраеньнях у Эўропе і дэлегацыя паехала ў Хельсінкі з пустымі рукамі, прапанавала там рашэньне Прэзідыуму ВС, якое ня мае законнае падставы. Чаму гэта было зроблена? Таму што ВС баіцца рэфэрэндуму.

Дэпутаты апазіцыі выступілі зь ініцыятываю аб тэрміновым скліканьні ў верасьні сэсіі, дзе павінны быць пастаўленыя

# НАВІНЫ

пытаньні аб дэфіцыце бюджэту, аб справаздачы ўраду, аб выкарыстаньні бюджэту; павінен быць прыняты новы бюджэт на 2-е паўгодзьдзе 1992 г., асноўныя эканамічныя законы (падаткавая сістэма, прыватызацыя, законы аб уласнасьці, аб прадпрыемстве), трэба прыняць адпаведныя захады ў сувязі з падвышэньнем цэнаў.

Урад "прывязаў" нашую эканоміку да расейскае эканомікі, таму мы жывем тымі працэсамі, што адбываюцца там. Чаму гэта для Беларусі вельмі некарысна? Таму што нашая эканоміка, наш узровень адрозніваюцца ад іншых краін. Велізарная Расея і малая Беларусь... Колькі-б мы ні працавалі, якія-б ні прымалі рэформы , як-бы ні ўздымалі прадукцыйнасьць нашае працы — нішто ня дасьць вынікаў, бо мы знаходзімся ў адзінай рублевай зоне, а значыць, усе хваробы велізарнае дзяржавы на ўсходзе будуць адбівацца на нас. Мы павінны адпаведным чынам дбаць пра нашыя інтарэсы: падрыхтоўваць выпуск уласнае валюты, ствараць сваю фінансава-крэдытную сістэму, а гэта не ствараецца за пяць дзен. Гэтая палітыка не праводзіцца. Мы робім яшчэ адну спробу хоць нейкім чынам паправіць становішча і да рэфэрэндуму, мы выступаем зь ініцыятывай сабраць чарговую сэсію ВС. На гэтай сэсіі абавязкова трэба разгледзець тыя пагадненьні, якія ўрад 20 ліпеня падпісаў з Расеяй — яны супярэчаць нашым нацыянальным інтарэсам, асабліва вайсковыя. Дзе гэта бачна, каб на нашай тэрыторыі знаходзілася чужое войска, і каб яно не плаціла за гэтую тэрыторыю арэнднае платы? Больш таго — у чужое войска будуць набірацца грамадзяне нашае Рэспублікі! ВС павінен даць ацэнку такім дакумэнтам.

Як можна заключаць пагадненьні, згодна зь якімі ўвесь транзіт, што ідзе з Расеі празь Беларусь, будзе ісьці задарма? Фактычна гэтыя пагадненьні — падстава для акупацыі. А становішча ў нашым войску ня можа не зьдзіўляць. Дзе гэта бачна, каб зь "беларускага войска", мэтанакіравана выганялі беларускіх афіцэраў? Зараз ідзе кампанія выгнаньня афіцэраў па нацыянальнай прыкмеце, і менавіта афіцэраў-беларусаў. Дзеля чаго гэта робіцца? Хто гэтым займаецца? ВС павінен даць належную ацэнку гэтым зьявам.

БНФ і БЗВ выступілі зь ініцыятывай правесьці 08.09.92 сьвята беларускае вайсковае славы. Там будзе прымацца вайсковая прысяга. Безумоўна, гэта будзе мець сымбалічны характар, але прысяга прымацца будзе па зацьверджаным ВС тэксьце, прычым ня толькі ў кадравікоў, а і ў вайскоўцаў запасу.

## БІТВА ПАД ВОРШАЙ

### Народная песьня

*Ой, у нядзельку параненьку*
*Узышло сонца хмарненька,*
*Узышло сонейка над борам,*
*Па-над селецкім таборам.*
*А ў таборы трубы граюць,*
*Да ваяцкае нарады зазываюць.*
*Сталі раду адбываці,*
*Адкуль Воршы здабываці:*
*А ці з поля, а ці зь лесу,*
*А ці з рэчкі невялічкі.*
*А ў нядзельку параненьку*
*Сталі хлопцы-пяцігорцы*
*Каля рэчкі на прыгорцы;*
*Гучаць разам з самапалаў,*
*З сяміпядых ад запалаў,*
*Б'юць паўсоткаю з гарматаў...*
*Масква стала наракаці,*
*Места Воршу пакідаці.*
*А як з Воршы уцякалі,*
*Рэчку невялічку праклінали:*
*"Бадай ты, рэчка, сто лет высыхала,*
*Як нашая слава тутака прапала;*
*Бадай высыхала да сканчэньня сьвету,*
*Што нашай славанькі ўжо нету!"*
*Слава Воршы ўжо нязгорша,*
*Слаўся, пан Астроскі!*

*"...У 1513 годзе зноў разгарэўся пажар імпэрыялістычнай вайны. Маскоўская армія ўвайшла на тэрыторыю Беларусі. Адбываюцца адна за другой вялікія бойкі пад Смаленскам і Воршаю. Пад Воршаю..: гэтман Астроскі атрымаў над маскоўскім войскам дзьве перамогі, ня гледзячы на тое, што яго армія была меншаю ад маскоўскай у два разы. Ад Воршы ен гнаў маскоўскае войска аж да Дарагабужу... Змаганьне бязупынна йдзе і далей... Такія гарады, як Полацак, Мсьціслаў, Магілеў, Ворша, Рагачоў, Гомель, Віцебск, Смаленск і інш., руйнуюцца па некалькі разоў. Мы ўжо і ня лічым, які страшэнны лік весак, невялічкіх мястэчак быў зруйнован за часы гэтага змаганьня. Усе тое, што зрабіла многавяковая праца народных нізоў, гібне ў часы імпэрыялістычнага змаганьня. Зямля зарастае частым лесам. Людзі бадзяюцца па лясох, хаваючыся там ад забойства і рабаваньня...*

*Дорага каштавала беларускаму працоўнаму народу імпэрыялістычная думка маскоўскіх гаспадароў, што Беларусь есьць іх "вотчына".*

Усевалад ІГНАТОЎСКІ.
Кароткі нарыс гісторыі Беларусі.

*"...Вялікаслаўнаму гаспадару каралю Жыгімонту Казіміравічу*
*будзі чэсць і слава вавекі —*
*пабядзіўшаму недруга свайго вялікага князя Васілія Маскоўскага,*
*а гетману яго харобраму князю Канстанціну Іванавічу Астроскаму*
*дай, Божа, здароўе й шчасьце ўперад лепшае:*
*як ныня пабядзіў сілу вялікую маскоўскую,*
*абы так пабіваў сільную раць татарскую..."*

Пахвала Князю Астроскаму. 1514 г.

## НАВІНЫ

# ВАЙСКОВАЯ ПРЫСЯГА

Я (прозьвішча, імя, імя па бацьку), паступаючы на вайсковую службу, прысягаю на вернасьць Рэспубліцы Беларусь і яе народу.

Клянуся сьвята выконваць Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь, вайсковыя статуты, загады камандзіраў і начальнікаў, высока несьці гонар і годнасьць воіна, не шкадуючы свайго жыцьця абараняць народ і дзяржаўныя інтарэсы Рэспублікі Беларусь.

Абавязуюся праходзіць вайсковую службу ў любым месцы на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ці за яе межамі, куды мяне накіруе Урад Рэспублікі Беларусь.

Калі ж я парушу прынятую мной вайсковую прысягу, то гатовы несьці адказнасьць, устаноўленую законамі Рэспублікі Беларусь.

Зацьверджана Вярхоўным Саветам
Рэспублікі Беларусь
11 студзеня 1992 г.

## АДЛЮСТРАВАНЬНЕ — ТРАВЕНЬ'92

Селета ў траўні незалежная сацыялягічная служба "Адлюстраваньне" правяла апытаньне "Пункт гледжаньня жыхара Беларусі" дзеля высвятленьня стану палітычнае сьведамасьці насельніцтва. Апытана 1976 рэспандэнтаў у Менску й абласных цэнтрах, у райцэнтрах і весках усходніх, заходніх абласьцей, чарнобыльскай зоны. Узроставыя, сацыяльныя, нацыянальныя ды іншыя характарыстыкі выбаркі колькасна адпавядаюць такім характарыстыкам усяе супольнасьці жыхароў Беларусі.

На пытаньне, ці здольны цяперашні Вярхоўны Савет спраўдзіць надзеі на лепшую будучыню, станоўча адказала 9,3 % рэспандэнтаў, ня вераць у такую здольнасьць дэпутацкага збору 75,5 % апытаных. 11,4 % лічаць, што з крызысу Беларусь можа вывесьці ўрад, 72,4 % сьцьвярджаюць яго нядзольнасьць да гэтага. 67,5 % апытаных людзей падтрымлівае рэфэрэндум аб роспуску ВС і новых, дэмакратычных выбарах, прычым 59,7 % галасавала б на такім рэфэрэндуме "ЗА".

"Пазначце, якія палітычныя сілы нашай Рэспублікі здольныя, на вашу думку вывесьці яе з крызысу?" — так гучала наступнае пытаньне анкеты. 54,2 % апытаных не змаглі на яго адказаць, а сярод палічна актыўнае часткі рэспандэнтаў адказы разьмеркаваліся гэтак: БНФ "Адраджэньне" — 67,2 %, прафсаюзы — 8,7 %, Саюз аграрыяў — 8,4 %, камуністы — 7,7 %, іншыя — 7,9 %.

Трывогу ж выклікаюць у апытаных (тых, хто адказаў на такое пытаньне): камуністы (61,5%), БНФ "Адраджэньне" (21,6 %), прафсаюзы (6,4 %), Саюз аграрыяў (4,6 %). Можна, такім чынам, гаварыць пра рост антыкамуністычных настрояў насельніцтва і чаканьні значнай яго часткі на вырашэньне праблемаў Народным Фронтам.

Ва ўзаемасувязі з рэйтынгам палітычных сілаў знаходзяцца рэйтынгі палітычных дзеячоў. Зянон ПАЗЬНЯК мае падтрымку 24,6 % апытаных, Станіслаў ШУШКЕВІЧ — 23,9 %, Віктар ГАНЧАР — 7,4 %, Уладзімір ЗАБЛОЦКІ — 5 %, Вячаслаў КЕБІЧ — 4 %.

Сярод палітычных праблемаў, разьвязаць якія, на думку апытаных, найперш мусіць беларуская ўлада, на першым месцы дасягненьне поўнае незалежнасьці Беларусі (44,5 %; дазвалялася даваць да трох адказаў, таму сума большая за 100 %). Далей — аднаўленьне гаспадарчых сувязяў з рэспублікамі былога СССР (37,3 %), уступленьне ў Агульны рынак (33,9 %), дасягненьне нэўтральнага статусу (33,7 %) і стварэньне ўласнай арміі (20,8 %). Найпільнейшыя сацыяльна-эканамічныя праблемы да вырашэньня — зьніжэньне цэнаў (38,9 %), змаганьне са злачыннасьцяй (38,5 %), зьмяншэньне наступстваў Чарнобыля (33,1 %), запабяганьне беспрацоўю (33 %).

58,1 % выступае за пераход да рынку, але пры гэтым 53,9 % пераканана, што ў Беларусі гэты пераход не пачаўся. Абсалютная большасьць ухваляе прыватызацыю зямлі (74,1 %), жыльля (64,6 %), дзяржаўнай уласнасьці (50,7 %).

Апошнім часам у афіцыйным друку ўзьнялася кампанія супраць дзяржаўнасьці беларускае мовы. Цікавасьць у гэтай сувязі мае адказ на пытаньне "Як вы ставіцеся да таго, што беларуская мова зьяўляецца ў нашай Рэспубліцы дзяржаўнаю?" Лічаць, што гэтак і павінна быць, большасьць — па Беларусі ў цэлым 48,6 %, па Менску 53,3 % апытаных. За дзяржаўную расейскую мову выступаюць па краіне 5,7 %, па Менску 4,1 %. Рэшта — за дзьве дзяржаўныя мовы або ня мае акрэсьленай думкі.

## З ЗАЯВЫ ПАЛІТЫЧНАЕ КАМІСІІ СОЙМУ І УПРАВЫ БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ" АБ ПАЛІТЫЧНЫМ СТАНОВІШЧЫ НА БЕЛАРУСІ

...Паўстае неабходнасьць далейшага згуртаваньня дэмакратычных сілаў Беларусі на плятформе абароны дэмакратыі, правоў чалавека, незалежнасьці й нацыянальнага адраджэньня. Блек рэфэрэндуму можа й павінен перарасьці ў перадвыбарчы саюз усіх дэмакратычных сілаў, дзе партыі й арганізацыі, захоўваючы спэцыфічныя асаблівасьці ды інтарэсы, злучылі б намаганьні дзеля выратаваньня Бацькаўшчыны, абароны неад'ёмных правоў, гонару й годнасьці нашых грамадзянаў.

Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне", маючы шырокую дэмакратычную плятформу, падтрымлівае ўсе дэмакратычныя партыі, згуртаваньні й кірункі палітычнае дзейнасьці ад лібэральна-дэмакратычных, хрысьціянска-дэмакратычных да сацыял-дэмакратычных, якія спрыяюць сувэрэнітэту, пабудове дзяржавы й нацыянальна-культурнаму адраджэньню Бацькаўшчыны. Гэта стварае аб'ектыўную магчымасьць перадвыбарчага аб'яднаньня дэмакратычных сілаў Беларусі.

Час рашучых выпрабаваньняў набліжаецца. Мы выказваем упэўненасьць у канчатковай перамозе дэмакратыі, у тым, што наш народ знойдзе сілы вярнуцца ў эўрапейскую й сусьветную супольнасьць вольных і дабрабытных краінаў.

Жыве Беларусь!
31 жніўня 1992 г.
г. Менск.

Аднадзенка. Дадатак да газэты "Сенсацыя". Нумар падрыхтавалі А.Ваюшын і К.Нямковіч.
Менск, 220001, абан. скрынка 34. Падпісана ў друк 7.09.1992. Слуцкая ўзбуйненая друкарня. Зак. N 2251

# НАВІНЫ